# ДЗЕЯЧАС

*літаратурны агляд № 5/2000 (5) Лявона Вашка*

***нязгода***

## ЗАМОЎЧВАЮЦЬ СМЕРЦЬ

24 верасня 2000 году Лявон Вашко паслаў у штотыднёвік “Літаратура і мастацтва” на імя галоўнага радахтара Алеся Пісьмянкова ліст, у якім выказаў заклапочанасць з прычыны замоўчвання газетаю смерці беларускае паэткі Ніны Чарнейкі. На пачатку жніўня Лявон Вашко даслаў у радакцыю апасмертку на сыход Ніны і меў з радакцыяй вусную дамоўленасць па таляфоне на друк некралогу. Даўно мінулася сорак дзён з дня смерці паэткі, а “ЛіМ” усё затрымлівае публікацыю. У сваім лісце да лімаўцаў Лявон Вашко выказаў дамнеў, што гэткая непашана радакцыі да памяці Ніны Чарнейкі – не наўмысная пагарда, а хутчэй за ўсё – вынік безадказнасці, абыякавасці і гультайства супрацоўнікаў штотыднёвіка; пісьменнік ад’значыў у сваем звароце да газеты: “...Практыка замоўчвання смерці паэтаў не спрыяе прафесійнаму росту Вашага выдання і зневажае светлую памяць тых, хто яшчэ нядаўна быў сярод нас, тварыў беларускую літаратуру і рухаў беларускую ідэю.”

***творaспакметы***

**АПОШНЈМ чАСАМ У ТВОРчУЮ МАЙСТЭРНЮ ЛяВОНА ВАШКА ПАСТУПЈЛЈ:**

***медалі***

**Богагліна:** *Генік Лойка. Тры гліняныя медалі “Беларусь”, гліняны мядаль “Lehienda z’ piasku”.* Адухаўлёнае глінацела гаворыць на беларускай мове і сніць беларускія мары. Гліна Геніка Лойкі – жывая плоць беларускае мінуўшчыны і будучыні. Бог гэтае плоці – творчая душа мастака, якая нараджае ўсюдны беларускі духачас.

***кніжкі і часопісы***

**Кветкаполымя:***Ганна Брэская. Настурцыі. Першая кніга паэзіі.Бібліятэка часопіса “Калосьсе”. “Полацкае ляда”. Полацак, 2000.*Беларускі свет у паэзіі Ганны Брэскай нараджаецца праз красоўнае полымя неўтаймоўнае квецені. Запаленыя на жывавогнішчы аквітных настурцыяў вершы паэткі чаруюць філасофіяй агністага жыцця і неўміручасцю сапраўдных пачуццяў. “На пялёсткі ў крыві чэрвень чары разліў, каб ізноў запылаць, зарумяніцца. Каб даць поўную цвець і прыгожа згарэць у вабнімках пунсовае раніцы.”

**Часасповедзь:** *Міхась Грыбаў. Былое ў сучасным.Апавяданні.Аб’яднанне “Ратуша”. Гародня, 1999.* Сучаснасць Міхася Грыбава глыбокапрасякнутая жывой мінуўшчынаю: ягоныя апавяданні – жыццепадрахунак аб пары мудрае сталасці, калі былое набывае асаблівы жыццёвы сэнс. У зборніку “Былое ў сучасным” мінулае і сённяшняе быццё ўчасавалася ў адзіналёс і прамовілася споведнай прозаю.

**Таемнашлях:** *Станіслаў Грынкевіч, Франук Грышкевіч, Уладыслаў Казлоўшчык. Вяртанне да сваіх. (Прадмова, укладанне і камянтары Сяргея Чыгрына.) Беларускі саюз у Рэчы Паспалітай. Беласток, 1999.* Ёсць тайнічая пуціна для тайнічых сэрцаў – час. У часе немагчыма заблукаць, калі сэрца напоўненае мудрай вечнасцю шляху. Тры заходнебеларускія пісьменнікі загубіліся ў вялікім свеце, але не заблукалі. Яны ўпарта ішлі да нас гасцінцам вечнасці. Яны прыйшлі, і сустрэліся пад вокладкаю кніжкі “Вяртанне да сваіх”. Яны вярнуліся...

**Кнігаповязь:** *Платон Крэнь. Бывай, Ярашоўка. Успаміны,нарысы, вершы. “Беларускі кнігазбор”. Менск, 1999.*Немагчыма знішчыць чалавека, калі ён творыць: знявечаны лёс Платона Крэня стаўся падставаю для напісання беспадобных беларускіх успамінаў. Нельга знішчыць слова, калі яно духапрагне волі: Ірына Крэнь, дачка пісьменніка, зберагла і выдала таемныя пісьмёны свайго бацькі насуперак здратаванню беларускае мовы і задушэнню беларускае думкі. Дзеці за бацькоў, жывыя за забітых, словамі, шэптам, думкамі – гэтак няскорана моватворыцца вечнаБеларусь.

**Квадратакругі:** *Ігар Сідарук. Квадратная варона. Аповеды. Бібліятэка часопіса “Калосьсе”. “Полацкае ляда”. Полацак-Гародня-Кобрынь, 2000.*Свет у зборніку апавяданняў Ігара Сідарука “Квадратная варона” кругаквадратамерны. Раальнасць сабраная ў ім з аскялёпкаў незвычайнага і фантастычнага, а незвычайнасць і фантастыка мудра напоўненыя раальным жыццём. Паядналныя кругі і квадраты ўтвараюць бяздонную светаметрыю тайнічага філасоўскага бясконцаабсягу.

**Акіянакорпус:** *Алесь Туровіч. Корпус. Вершы, проза. Зборнік не пазначаны часам і месцам выдання.*Кожны Апалон з цвёрдым “эр” на *канцы* зачынае Апалінэра, кожны маленькі Бум нараджае бясконцыя Бамы і Літы, кожная транслагічная нелагічнасць нелагічнатранслагізуе кожную лагічную лагічнасць у зборніку вершаў і прозы Алеся Туровіча “Корпус”, – то сапраўдны акіян без берагоў, без хваляў, без вады.

**Стасветавечнасць:** *Кантакты і дыялогі. №7-8/2000. Інфармацыйна-аналітычная і культуралагічная білятэнь. Менск.*Стасветы і вечнасць – беларускія абсягі. З рознакраёў і рознaчасоў зьявіліся на старонкі “Кантактаў і дыялогаў” беларусы, каб выдыхнуць паўсюднаБеларусь; рознакраі і рознaчасы ператвараюцца ў жывыя стасветы тады, калі яны вечняцца творчымі душамі.

**Новастаражытнасць:** *Лідскі Летапісец. №2 (10) Красавік-чэрвень, 2000. Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс. Ліда.*Новакалендар, новачас, новастаражытнасць і новагісторыя нараджаюцца на лідскіх абсягах – “Лідскі Летапісец” таемна і мудра піша беларускія запаветы.

**Заўтрабрамнікі:** *Пост №1.Люты 2000. Выданне з Новага Полацку.*Літаратурная білятэнь “Пост №1” створаная маладымі літаратарамі, аб’яднанымі Ідэяю Новага Полацку і жыццём у мудравечнае паслясучаснасці: “Мы – Пост. Мы – Будучыня. Вы прыйдзеце ў Заўтра – там ужо будзем мы – брамнікі – на сваім Пасту. Гэта ёсць нашым агнявым рубяжом, а Слова ёсць нашай зброяй.”

***паштоўка***

**Дзвютайніца:** *1910-1983. Беларуская паэтка Ларыса Геніюш.Слонім, 1998. Выдаў Сяргей Чыгрын.* Ларыса Геніюш пазірае на нас з пакрыёмага самавыдаўскага свету. Гэты позірк – неразгадная таямніца для ворагаў беларушчыны і бяздонная таямніца шчырых беларусаў: адным гэтую таямніцу ніколі не дадзена спасцігнуць у навакольным свеце, другім гэтую таямніцу дадзена навечна ўтоіць ад наваколля.

***каласавіны***

## Пабачыў свет восьмы нумар “Калосься”!

**Духаніва:** *Калосьсе. №8, 2000. Літаратурна-мастацкі альманах.* Іх думку нельга ўтаймаваць, іх дух не знішчыць, іх час немагчыма павярнуць назад – жывыя пясчынкі святкуюць свята жыцця ў чарговым нумары часопісу. Па каменні, па пустэчы, па вадзе і лёдзе рассяваецца, прабіваецца і каласуе беларускае зерне.

***Свята беларускіх каласоў пачынаецца ў часопісе “Калосьсе”.***

**Часопіс “Калосьсе” – беспадобнае выданне. Ён ствараецца на грамадскіх асновах пісьменнікамі ў розных кутках Беларусі і мае кардынацыйны цэнтар у Полацку. Ён прапагандуе ідэі вольнае творчасці. Ён здяйсняе права на мастацкую свабоду.**

***У восьмым нумары часопіса “Калосьсе” можна пачытаць п’есу Лявона Вашка “Ампутацыя міндалінаў”, ягоныя рацэнзіі на кніжку паэзіі Валянціны Аксак і на кніжку прозы Сяргея Астраўца, а таксама рацэнзію Сяргея Шыдлоўскага на першавыпуск “Маленькага сшытку Лявона Вашка”.***

***друкуецца***

***ДРУГІ ВЫПУСК:***
**проза, драматургія, крытыка**
**і Беларускі Час на жывых старонках**

***“Маленькі сшытак Лявона Вашка”***

***ПАЛУЧЫЦЬ ЛІТАРАТУРУ ЛЯВОНА ВАШКА МОЖНА НА ГАЛОЎНАЙ СЯДЗІБЕ БНФ.***

**Тэма наступнага выпуску “Дзеячасу”: думніцтва Лявона Вашка.**

***АДРАС ТВОРЧАЕ МАЙСТЭРНІ ЛЯВОНА ВАШКА:***

**Савецкая, 138 Масты Беларусь 231600**
**☎ (8-01515) 2-23-75 e-mail: liavon@yahoo.com**
**http://liavon.virtualave.net**



Літаратурны агляд “Дзеячас” распаўсюджваецца бясплатна.
Дабрачынна надрукаваны ў Гародні на абсталяванні грамадскага аб’яднання “Ратуша” пры падтрымцы Фонду “Аллянс Каўнтарпарт”, Камісіі па Дамакратыі Амбасады ЗША на Беларусі і нацыянальнага Фонду на карысць дамакратыі (ЗША). Друкар Ігар Лысееў. Збор 299 асобнікаў.


***Гэтае***
***бязмежжа агністых акіянарэкаў***
***вып’ецца даастачы – толькі трэба яго***
***піць; і каб бачыць гэты бяскрайні тайна-***
***свет – трэба глядзець, і каб яго чуць – трэ-***
***ба слухаць. У дажджох і акіянах зыркіх***
***аляктронакропляў, у каляровых роспыр-***
***сках непрыкметных аляктронасузор’яў, у***
***зіхатлівых суплётах нязведаных аляктро-***
***нагалактыкаў пачынаецца новая***
***сусветаБеларусь.***

**Жывучы полымем акіянарэкаў, глядзечы на зіхценне**
**сузор’яў, слухаючы агонь дажджоў, хвалёўна**
**вычуваеш, як маленькія аляктронныя**
**часакроплі спакваля і няўхільна**
**вывечніваюць**
**Храм Духу.**




**http://liavon.virtualave.net**

# ДУХАХРАМ

## Diary ‘The Temple of Spirit’

**Выпуск № 1 (1/2000)**

*Першы выпуск “Духахраму” пабачыў свет у сярэдзіне ліпеня 2000 году. Яго атрымалі больш за трыста адрасатаў у розных кутках Зямлі.*

*Аляктронная ведамка Лявона Вашка “Духахрам” разыходзіцца па адрасох e-mail. Ейная мэта – паўсюджанне ідэяў і поглядаў Лявона Вашка, прапаганда ягонае творчасці. На старонках ведамкі змяшчаецца разнастайная інфармацыя пра творчасць пісьменніка, друкуюцца ягоныя творы, публікуюцца звесткі з жыцця беларускае культуры.*



## ЛЯВОН ВАШКО МАЕЦЦА СТАЛА ПАВЕДАМЛЯЦЬ БЕЛАРУСКІЯ НАВІНЫ.

***Ведамка “Духахрам”Лявона Вашка выклікала цікавосць у чытачоў, пра што сведчаць лісты, якія прыходзяць на аляктронны адрас пісьменніка, і звярнула на сябе ўвагу прэсы, пра што гавораць публікацыі ў друку.***

### *У ПЕРШЫМ НУМАРЫ:*

***Аб чым не марыць беларускі празідэнт, абсалютная раальнасць для беларускага пісьменніка.***

Публікуюцца інармацыя аб адказе Біла Клінтана на ліст Лявона Вашка, а таксама ліст беларускага пісьменніка да празідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі.

***Хто ўратуе беларускую паэтку? Ніне Чарнейцы неабходныя мядычная дапамога і чалавечая спагада…***

Друкуецца матарыял пра лёс Ніны Чарнейкі, апавядаецца пра цяжкую хваробу беларускае паэткі, змяшчаецца просьба дапамагчы ёй у лекаванні цяжкое хваробы, публікуюцца вершы Ніны Чарнейкі з ейнага паатычнага зборніку “Грамнічная свечка”, а таксама рацэнзія Лявона Вашка “Жаночамудранне” на гэты зборнік.

***Выданні Лявона Вашка можна сустрэць на галоўных сядзібах БНФ і ТБМ у Менску.***

Расказваецца пра асаблівасці пісьменніцкае і навуковае творчасці Лявона Вашка. Даюцца анатацыі да ягоных кніжкаў прозы “Еўрапейскія гісторыі”, “Паэтыцары. Трыццаць пяць беларускіх малюнкаў”, навуковае публіцыстыкі “Гістарызацыя свядомасці. Беларуская літаратура і беларушчына на пачатку XX стагоддзя”. Тут жа апавядаецца пра новую кніжку “Маленькі сшытак Лявона Вашка”, які надрукаваны ў Гародні пры канцы зімы 2000 году на абсталяванні грамадскага аб’яднання “Ратуша”.

***Кроніка: час,ператвораны ў вечнасць…***

Пад гэтай назваю змешчаная падборка інфармацыі пра літаратурную дзейнасць Лявона Вашка цягам апошніх гадоў. Друкуюцца матарыялы: “Водгук: звестка ад Біла Клінтана прыйшла ў горад Масты ў творчую майстэрню Лявона Вашка”, “Вялесаванне: літаратурная прэмія Таварыства Вольных Літаратараў “Гліняны Вялес-1997” была ўручаная пісьменніку”, “Падтрымка БНФ і ТБМ: грашовая прэмія за лепшую літаратурную публікацыю, якую прысудзіў Дзяржкамдрук Лявону Вашку, была скіраваная аўтарам на падтрымку Беларускага Народнага Фронту “Адраджэньне” і Таварыства Беларускае Мовы імя Францішка Скарыны”, “Тайналічбы: у траўні 1999 году нарэшце завершанае апавяданне “7-45”, “Першавыпуск: пры матарыяльнай падтрымцы фермерскае гаспадаркі "Гарызонт" першы выпуск "Маленькага сшытку Лявона Вашка" надрукаваны на пачатку гэтага году ў Гародні на абсталяванні Грамадскага Аб'яднання "Ратуша", “Дзеячас: пра творчасць беларускага літаратара апавядае адмысловы літаратурны агляд”, “Прэмія: звышвобразнасць прозы Лявона Вашка сягае ў наступнае стагоддзе”, “Гасцёўня: творчую майстэрню ў Мастох раз-пораз наведваюць беларускія дзеячы”, “Каверзы: нейкі няпознамка напісаў два лісты ў радакцыю “Нашае Нівы” ад імя пісьменніка”.

***Жыццяпіс: Лявон Вашко – беларускі празаік, драматург, літаратуразнаўца...***

Публікуецца творчая біяграфія пісьменніка.

***Чакае друку і неўзабаве пабачыць свет чарговы выпуск "Маленькага сшытку Лявона Вашка".***

Анансуецца другі выпуск “Маленькага сшытку Лявона Вашка”, паведамляецца змест новае кніжкі.

*Апрача таго, у нумары паведамляюца мэта і задачы новага выдання, падаецца інфармацыя, як падпісацца на аляктронную ведамку, анансуецца наступны выпуск “Духахраму”, змяшчаецца раклама дзейнасці Гарадзенскага Абласнога Грамадскага Аб’яднання “Ратуша” і фермерскае гаспадаркі “Гарызонт”.*

**Дзе прагледзець “Духахрам” і як на яго падпісацца?**

**Напаткаць “Духахрам” можна ў Інтарнаце на адрасе: *http://liavon.virtualave.net*. Аднак, калі існуе нязручнасць з працаю ў Інтарнаце, дык “Духахрам” можна выпісаць на свой аляктронны адрас, і тады ён будзе да Вас стала прыходзіць у самаразвяртальным пакунку. Дзеля гэтага трэба даслаць да Лявона Вашка (адрас знаходзіцца пры канцы ўлёткі) Ваш *e-mail*, і паведаміць, на якой мове Вы б хацелі праглядаць ведамку: па-расейску, па-ангельску ці па-беларуску. Калі Вы жадаеце атрымаць нумар, які ўжо выйшаў, дадаткова паведаміце пра тое. Падпіска на “Духахрам” бясплатная.**

***Тры мовы:*** Асобныя матарыялы першага выпуску “Духахраму” выйшлі ў трох мовах: па-беларуску, па-расейску і па-нгельску. Надалей мяркуецца выдаваць “Духахрам” цалкам у розных моўных версіях: з часцейшаю перыядычнасцю па-беларуску, і з радзейшаю па-расейску і па-ангельску.

***Дбанне:*** Пра выхад першага выпуску “Духахраму” чынна дбалі Андрэй Авечка, які зрабіў кансультатыўную дапамогу Лявону Вашку аб часе стварэння ведамкі, і Галіна Агапава, якая пераклала матарыялы на ангельскую мову.

***Аздоба:*** Першы выпуск “Духахраму” аздоблены інтарнат-графікаю і каляровымі ды чорна-белымі фатаздымкамі. На старонках аляктроннага выдання скарыстаныя таксама мультыплікацыйныя афекты.

## Чарнобыльскі “чых” не даў рады супраць “Духахраму”

Аб часе распаўсюджання “Духахраму” на аляктронны адрас Лявона Вашка прыйшоў занепакоены ліст з інфармацыйнага агенства “БелаПАН”: звярталася ўвага на вірус “чых”, які быў знойдзены ў самаразвяртальным пакунку, што змяшчаў у сабе аляктронную ведамку беларускага пісьменніка. Пасля праверкі цвёрдакружэлкі кампутару, з якога адпраўляўся “Духахрам”, адшукаліся вірусы ў кампутарнай памяці, якія, цалкам верагодна, прыблукалі туды ў часе карыстання аляктроннай поштаю і не былі сваечасова выяўленыя праз збоі ў антывіруснае праграме. Пераўсталёўка антывіруснае праграмы дазволіла знішчыць інфекцыю ў памяці кампутару і наладзіць распаўсюджанне здаровае прадукцыі.

Вірус “чых” нарабіў нямала бяды ў свеце. Ён распаўсюджваецца праз аляктронную пошту і носьбіты, нябачна плодзіцца ў памяці кампутару і разбурае інфармацыю ды задае гэткія параметры, што адно дым ідзе з мацярынкі, толькі тады, калі абуджаецца штогод 26 красавіка, у дзень чарнобыльскае катастрофы – таму яго яшчэ называюць “чарнобылем”. Аднак жа не такія чарнобылі марна спрабавалі знішчыць незнішчальнае – беларуса і ягоны дух; дык з “чыхам” разабраліся аб адной хвіліне.

***У першым нумары “Духахраму” змешчаныя матарыял пра лёс Ніны Чарнейкі, вершы паэткі і рацэнзія на ейны зборнік паэзіі “Грамнічная свечка”. Праз публікацыю меркавалася маральна падтрымаць Ніну Чарнейку аб цяжкай для яе пары, звярнуць увагу чытачоў на ейны нялёгкі лёс і заклікаць грамаду дапамагчы ў лекаванні жудаснае хваробы. У хуткім часе пасля выхаду “Духахраму” Ніна Чарнейка памёрла, і заклік аб дапамозе стаўся развітальным словам.***

## насустрач промню



Ніна Чарнейка нарадзілася ў вёсцы Пераваловка Рэчыцкага раёну Гомельскае вобласці ў беларускай сям’і з сямі дзяцей. Яна з маленства пісала вершы. Скончыла мядычную вучыльню і працавала медсястрою ў Менску. Калі адбылася аварыя ў Чарнобылі, Ніна Чарнейка гасцявала ў бацькоў у Пераваловцы, якая знаходзіцца паблізу атамнага раактару. У 1997 годзе ў аўтамабільнай катастрофе загінуў ейны муж. На руках у Ніны засталіся трохгадовы сын і дзевяцігадовая дачка. У 1997 годзе Ніна Чарнейка стала траціць прытомнасць, і яе паклалі ў шпіталь. Пасля мядычнага агляду ёй зрабілі апярацыю па выдаленні пухліны галаўнога мозгу. Яна прайшла курс прамянёвае тарапіі. У яе пагоршыўся зрок, знік сон, зьявіліся заўсёдныя болі ў галаве. Ёй была нададзеная першая група інваліднасці. У 2000 годзе яна зноўку пачала траціць прытомнасць. Была праведзеная за другім разам апярацыя, у выніку якой пухліна выдаленая часткова. 27 ліпеня 2000 году Ніна Чарнейка памёрла. Пахавалі яе 28 ліпеня ў Жодзіне, куды пасля Чарнобылю перасяліліся ейныя бацькі.

У 1999 годзе Ніна Чарнейка выдала зборнік вершаў “Грамнічная свечка”. Гэта кніжка чыстай і светлай паэзіі. Вершы Ніны Чарнейкі сугучныя з ейным лёсам: яны прасякнутыя самотнай філасофіяю і шчырай вераю ў лепшае, яны хвалююць глыбінёю, мудрасцю і нязломнасцю чалавечага духу насуперак жорсткім выпрабаванням лёсу.

**Я пакідаю краіну зданяў<br>пачварна-чорных,<br>дзе валадараць заўсёды<br>званні,<br>пагарда й грошы.**

**Я пакідаю краіну цемры,<br>іду да сонца,<br>дзе промень цёплы,<br>надзіва светлы,<br>ня рэжа вочы.**

**Іду да шчасця,<br>іду паволі<br>да лепшай долі.<br>І не вярнуся сюды ўжо болей<br>я аніколі…**

***“Пакуль чалавек жывы, яго заўсёды можна ўратаваць. Калі чалавек памірае, заўсёды можна спазніцца.”***